# Нашы юбіляры





**УЛАДЗІМІР ЕЎДАКІМАВІЧ СНАПКОЎСКІ**

Споўнілася 60 гадоў вядомаму беларускаму вучонаму, доктару гістарычных навук, прафесару кафедры міжнародных адносін Уладзіміру Еўдакімавічу Снапкоўскаму.

У. Е. Снапкоўскі нарадзіўся 22 мая 1954 г. у Віцебску. Скончыў у 1976 г. гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1980 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 1993 г. – доктарскую дысертацыю, у 1995 г. яму было прысвоена вучонае званне прафесара. У 1979–1993 гг. ён малодшы, старшы, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР (НАН Беларусі), а ў 1982–1988 гг. – вучоны сакратар аддзялення грамадскіх навук АН БССР. З 1993 г. – прафесар кафедры міжнародных адносін. З 1995 па 2000 г. – загадчык аддзела нацыянальных і міжнародных адносін Інстытута гісторыі НАН Беларусі (па сумяшчальніцтву).

Прафесар У. Е. Снапкоўскі – вядомы і аўтарытэтны беларускі вучоны ў галіне даследавання гісторыі знешняй палітыкі і дыпламатыі Беларусі ў ХХ – пачатку ХХІ ст. Адзін са стваральнікаў беларускай навуковай школы даследчыкаў знешнепалітычнай гісторыі Беларусі. Аўтар больш за 270 навуковых і навукова-папулярных прац па гэтай і іншай тэматыцы (гістарыяграфія ўсеагульнай гісторыі і міжнародных адносін у Беларусі, станаўленне сучаснай беларускай эліты, фарміраванне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў), у тым ліку 10 манаграфій. Шэраг яго артыкулаў надрукаваны за мяжой (Аўстрыя, ЗША, Польшча, Расія, Украіна).

У. Е. Снапкоўскі распрацаваў новую вучэбную і навуковую дысцыпліну «Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі» і ўпершыню выдаў дапаможнік для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па гэтым прадмеце. Рускамоўная версія выдання выйшла ў 2013 г. у серыі «Класічнае ўніверсітэцкае выданне». Ім апублікаваны першы курс лекцый для студэнтаў па знешняй палітыцы Рэспублікі Беларусь. У нас і за мяжой вядомы даследаванні У. Е. Снапкоўскага па знешнепалітычнай дзейнасці Беларускай ССР у 1944–1953 гг., асабліва яго глыбокі наватарскі аналіз праблемы членства савецкіх саюзных рэспублік у ААН і на міжнародных пасляваенных канферэнцыях. Вучоны адкрыў і такую малавядомую беларускім чытачам старонку, як дапамога ЮНРРА (Адміністрацыі дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый) Беларускай ССР у 1945–1947 гг. У. Е. Снапкоўскі плённа распрацоўвае праблематыку сучасных беларуска-расійскіх і беларуска-польскіх адносін, аб чым сведчаць асобныя манаграфіі, выдадзеныя ў апошнія гады.

Разам са сваімі калегамі па кафедры міжнародных адносін Уладзімір Еўдакімавіч актыўна працуе над падрыхтоўкай да друку зборнікаў дакументаў і матэрыялаў па знешнепалітычнай гісторыі Беларусі ў ХХ – пачатку ХХІ ст.: «Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991)» у 4 т., «Знешняя палітыка Беларусі (1996–2010)», т. 8–10, «Государственные границы Беларуси (1917–2010)» у 2 т. У выніку архіўных пошукаў і працы з літаратурай, у тым ліку перакладчыцкай і рэдакцыйнай, апублікаваны больш за тры тысячы дакументаў і матэрыялаў з архіваў Беларусі, Вялікабрытаніі, Германіі, Літвы, Польшчы і Расіі, а таксама з гісторыка-дыпламатычных выданняў замежных дзяржаў.

У. Е. Снапкоўскі – член вучонага савета факультэта міжнародных адносін, член камітэта «Правазнаўства і міжнародныя адносіны» камісіі па вылучэнні работ на саісканне прэміі імя першага рэктара БДУ У. І. Пічэты, член рэдкалегій навуковых часопісаў па міжнародных адносінах у Польшчы і на Украіне. З'яўляўся членам рэдкалегіі часопіса «Веснік БДУ» (сер. 3), членам спецыялізаваных саветаў

па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый па гісторыі знешняй палітыкі і міжнародных адносін і па палітычных навуках пры БДУ. Ён падрыхтаваў трох кандыдатаў гістарычных навук па спецыяльнасці «Гісторыя знешняй палітыкі і міжнародных адносін».

Прафесар У. Е. Снапкоўскі ўдзельнічаў у міжнародных навуковых канферэнцыях у Вялікабрытаніі, Германіі, Літве, Польшчы, Расіі, ЗША, Украіне. Прайшоў навуковыя стажыроўкі ў Хумберсайдскім універсітэце (г. Хал, Вялікабрытанія), Інстытуце Гарымана Калумбійскага ўніверсітэта (Нью-Ёрк, ЗША), Грынвічскім універсітэце (Лондан), Украінскім інстытуце міжнародных адносін, Дыпламатычнай акадэміі МЗС РФ.

З’яўляецца лаўрэатам прэміі імя акадэміка РАН В. А. Капцюга Сібірскага аддзялення РАН (2003) за выданне кнігі «Очерки истории белорусов Сибири» і прэміі імя У. І. Пічэты (2008) за падрыхтоўку цыкла вучэбных і навуковых работ па гісторыі знешняй палітыкі Беларусі; ён заслужаны работнік БДУ.

Калектыў факультэта міжнародных адносін і кафедры міжнародных адносін жадаюць Уладзіміру Еўдакімавічу моцнага здароўя, шчасця, новых творчых здзяйсненняў у навукова-педагагічнай дзейнасці.

***А. В. Шарапа,***
доктар гістарычных навук,
прафесар, загадчык
кафедры міжнародных адносін